Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 23 Субота, 1 сьнежня 1928 г. м. Вільня. Год I.

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5,

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Неўраджай і падаткі.

У выпадках агульных народных бедстваў, як землетрасеньне, паводкі, неўраджаі і г. д., павінна прыходзіць на помач усё грамадзянства, дзяржава. Прынамсі гэтак рэагуюць на народныя бедствы заходнія культурныя дзяржавы.

У гэтым дае найлепшы прыклад, заслугоўваючы на ўвагу, дыктатар Італіі, Мусаліні. Як ведама, нядаўна наведала Італію вялікая катастрофа выбухаў вулканаў Этны і Вэзувія. У краі распачаліся дабрахотныя зборкі для ахвяраў катастрофы. Але Мусаліні забараніў гэтыя зборкі, выдаўшы наступны загад: «пацярпеўшыя, як раўнапраўныя грамадзяне, плаціўшыя падаткі да скарбу дзяржавы, павінны ад дзяржавы атрымліваць патрэбную помач».

Няўраджай у нашым краі, як і можна было прадбачыць, прыняў катастрафічныя разьмеры. Значная частка насельніцтва Віленскага і часткава Наваградзкага ваяводзтваў пазбавілася збожжа для пракорму сябе і жывёлы, бульбы, пашы і насеньня на вясну будучага году. Патрэбна шырокая дзяржаўная дапамога, якая павінна ісьці ў трох кірунках: аказаньні грашовае дапамогі, павялічваньні у вёсцы заработку і падатковых палёгках.

Аб гэтым раней шмат гаварылася на пасольскіх мітынгах і пісалася ў газэтах, і толькі ў апошні час штось усе замоўклі, быццам бяда ўжо мінавала. У свой час шмат абяцалі і нашыя паслы з «едынкі», «інтэрвэньяваўшыя» ў мяйсцовых і цэнтральных уладаў, але да гэтае пары нашая вёска ня мае рэальнае дапамогі, якая-бы ўстрымала пацярпеўшае насельніцтва ад пазбыцьця жывога інвэнтару і агульнага зруйнаваньня. А нашыя паслы, заместа таго, каб у першую чаргу парушыць гэтую балючую справу на форуме Сойму, займаюцца там узаемнымі лаянкамі, чыннымі абразамі, гульнёю ў дуэлі і непатрэбнаю дэмагогіяй. А аб сваіх абавязках у адносінах да выбаршчыкаў, якім шмат паабяцалі перад выбарамі, у часе цяжкае патрэбы быццам запамяталі.

А ў гэты час сяляне зьнемагаюцца яшчэ пад цяжарам падаткаў. Калі хто з пацярпеўшых атрымлівае што-колечы з дзяржаўнае дапамогі, дык сэквэстратары і тое забіраюць за падаткі.

Здавалася-бы справядліва і лёгічна, што калі пэўная частка насельніцтва карыстаецца з дзяржаўнае дапамогі, дык скарбовыя ўлады павінны былі-б хвілёва ўстрымацца ад спагону падаткаў. А між тым, адна рука ня ведае, што робіць другая. Усе дзяржаўныя дапамогі ідуць не на падтрыманьне гаспадарак, а зноў варочаюцца да скарбовае касы. На'т „са-

нацыйная“ прэса пачала зьвяртаць на гэта ўвагу. Віленскае абшарніцкае „Słowo“ (№ 263) у карэспандэнцыі з Навагрудку пад загалоўкам „Wybryk Urzędu Skarbowego“ між іншым піша:

«Маю — піша кар. — фальварак у 100 гэкт. і млын. Дагэтуль плаціў падатку 200—400 зл. А ў гэтым годзе Скарбовы Ўрад у Навагрудку вызначыў мне 15,184 зл. даходу і адсюль вылічыў 1,144 зл. падатку. І гэта робіцца ў годзе, калі ня ведаю, чым буду карміць людзей і інвэнтар, бо маю толькі 30% звыклага ўраджаю сена і жыта.

Калі да гэтага далучыць яшчэ: 666 зл. 17 гр. падатку грунтовага, 230 зл. 28 гр. падатку драговага, 632 зл. 55 гр. падатку гміннага, 706 зл. 23 гр. падатку «шацунковага», за сабакаў 30 зл., за каламашку 20 зл., за вэлясапэд 20 зл. — дык будзе разам 4,099 зл. 23 гр., якія як падатак, павінен заплаціць фальварак у 100 гэктараў няўраджайнай, пяшчанай, выгаранай зямлі! Гэта ня жыцьцё, але мука.

Гэта прыпамінае таго бядняка, які, ня кормячы каровы і не даючы падсьцілкі, хацеў мець карысьць з малака і дзівіўся, што карова усё менш давала малака, худзела і нарэшце здохла.

Трэба,—канчае кар.,—каб уся прэса падтрымала, бо інакш недалёка той час, калі кожны пазбавіцца на‘т гэтага варштату працы, а Польшча дойдзе да таго стану, у якім цяпер знаходзяцца Саветы,— г. ё. да голаду».

Гэтым пытаньнем займаецца ў апошнім нумары і віленская сельска-гаспадарчая часопісь „Tygodnik Rolniczy“ № 43-44 у артыкуле „Wobec klęski nieurodzaju“. Указаўшы на вялізарныя разьмеры катастрофы і спосабы апанаваньня ёю, тыднёвік піша:

«Наша вёска абцяжана падаткамі, пытаньне аб здабыцьці сродкаў на пакрыцьцё падаткаў зьяўляецца паважнаю праблемаю ў балянсе нашага рольніка. А адкуль-жа ў гэтым годзе здабыць гэтыя сродкі? Дзяржава павінна пачакаць, пакуль прыйдзе нармальны ўраджай і рольнік усё заплапіць. А з пустога сяньня ня можна наліць.

Рольнікі ня гэтак яшчэ нездаволены разьмерам падаткаў, як самым спосабам іх сьцягваньня. Скарбовыя ўлады адносяцца да рольнікаў з пэўнаю, так сказаць, злосьцю. Катэгарычны, а звыкла незразумелы фармалізм скарбовых уладаў, выклікае шмат незадаваленьня. Дык хоць у гэтым годзе, гэтак цяжкім для рольнікаў, скарбовыя ўлады няхай зьменяць свой стасунак да вясковага платніка, якіласьне ў годзе катастрофы будзе найбольш чулым да «спосабаў» скарбовых уладаў».

Але, нажаль, і гэтыя цьвярозыя галасы мяйсцовае прэсы, як шмат папярэдніх слушных увагаў, астаюцца голасам вапіючага ў пустыні.

# Дамагаймася роднай школы.

ГРАМАДЗЯНЕ!

Першага студня апоні тэрмін для складаньня дэклярацыяў на наступны год на адкрыцьце ўрадавае школы ў роднай мове.

Дык кожны з Беларусаў павінен выкарыстаць гэты кароткі час для выкананьня свайго грамадзкага абавязку і падаць дэклярацыю свайму школьнаму інспэктару.

Няўдачы папярэдніх гадоў не павінны Вас устрымаць ад масавага і энэргічнага дамаганьня роднай школы, на якую Вы маеце правы на падставе закону ад 31 ліпня 1924 г. і Распараджэньня Міністра Рэлігійных Спраў і Публічнае Асьветы ад 7 студня 1925 г.

Ніякія рэпрэсіі ці пагрозы мяйсцовае адміністрацыі, ніякая самаволя войта ці школьнага інспэктара не павінны перашкодзіць Вам выканаць свой сьвяты і законны абавязак перад сваім Народам.

Нішто само не даецца без барацьбы і ніхто за Вас кланяцца ня будзе, калі Вы не паклапаціцеся самі за сябе.

Кожны бацька, ці апякун павінны напісаць дэклярацыю аб тым, што жадаюць, каб іх дзеці вучыліся ў роднай беларускай мове, пайсьці да гміны, заверыць там свой подпіс і здаць гэтую дэк-

ляцрацыю пад расьпіску школьнаму інспэктару да 1 студня.

Дэклярацыю трэба падпісаць у прысутнасьці войта. Калі сам няпісьменны, то трэба пісьменнага чалавека, які-бы ў прысутнасьці войта заверыў гэты подпіс. Войт ня мае права адмовіцца заверыць подпіс на падставе загаду Мін. Ўнутр. Спраў ад 12 лютага 1925 г.

Толькі тады можа быць адчынена ўрадавая беларуская школа ці ператворана істнуючая польская ў беларускую, калі бацькі пададуць школьнаму інспэктару з аднаго школьнага вокругу дэклярацыяў ня менш як на 40 вучняў, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей у беларускай мове.

Калі ўсё па закону будзе выканана, а школьныя ўлады не адчыняць беларускае школы, то бацькі могуць жаліцца Міністру Асьветы.

Школьны век дзяцей лічыцца ад 7 гадоў да 14 гадоў і 4-х месяцаў.

Дык усе грамадою падавайце дэклярацыі сваім школьным інспэктарам і можаце быць пэўныя, што даб'ецеся дзяржаўнае школы ў сваёй роднай беларускай мове!

# Аб чым пішуць беларускія газэты.

„Bieł**aruskaja Krynica**" ў № 53, у сваёй перадавіцы „Да дзесятых угодкаў незалежнасьці Польшчы" між іншым піша:

„Латвія здаб лася на тое, каб Беларусам, сваім грамадзянам, даць культурную аўтаномію, С.С.С.Р. здабылася на тое, каб хоць у вузкіх рамках камуністычнага сьветагляду даць Беларусі культурную і адчасьці палітычную аўтаномію, Польшча 2 мільёны Беларусаў у працягу дзесяцілетняга свайго істнаваньня ўсьцяж корміць абяцанкамі. Пару дзесяткаў школ, Гімназія ў Вільні і Навагрудку вось і ўсё, што мы ад Польшчы маем у галіне культурнай.

Школы-ж беларускай у ліку адпаведным да насяленьня беларускага, а так-жа збудаваных на сталых праўных падставах, мы, на наш жаль і на дзіва ўсяго сьвету, ня маем.

Эканамічнае жыцьцё беларускага народу пад Польшчай так-жа дужа цяжкое. Памінаючы асадніцтва, якое атрымала і атрымлівае далей вольныя землі ў нашым краі, з яўным мінаньнем інтарэсаў беззямельных і малазямельных сялян-беларусаў, праводзіцца палітыка шкодная для нас і ў іншай галіне".

Далей, у артыкуле „Чаму нам блага" гаворыцца:

„Цяпер сьвет такі, што кожны дбае толькі пра сябе, пра свой народ і стараецца рабіць дабро для сябе і свайго народу. Палякі ці Маскалі нашага быту не папраўляць, хоць і шмат чаго для нас абяцаюць, але сучасная практыка і гісторыя паказываюць нам адваротнае. Гэтыя нашы „прыяцелі", карыстаюцца з нашай нясьведамасьці.

Шмат чаго абяцаюць, асабліва ў часы перадвыбарныя ў Сойм і Сенат, каб толькі мы іх сваімі галасамі туды правялі, але там робяць зусім адваротна і найчасьцей на нашу некарысьць.

Каб ня даўцца гэтаму, мы павінны быць сьвядомымі, зарганізаваны ў свае нацыянальныя партыі і быць сябрамі сваіх культурна-прасьветных інстытуцыяў".

У нумары 8 „За Працу", у перадавіцы „Не забываймася аб школьных дэкляарацыях" між іншым пішацца:

„У сучасны мамэнт адной з сьпешных спраў (поруч з іншымі) зьўяляецца барацьба за родную школу. Мы хочам напомніць нашым чытачом, што 1 студзеня канчаецца тэрмін падачы дэкляарацыяў на наступны школьны год.

Барацьба за родную школу ідзе не ад учарашняга дня. Мы мусім дабіцца роднай школы ў кожнай беларускай вёсцы! Гэта наша права, гэта наш абавязак, гэта адзін з магутнейшых спосабаў далейшай барацьбы.

Тыя няўдачы, якія мы атрымалі на гэтым шляху барацьбы за школу, тыя аграмадныя высілкі і стойкасьць, якія пашлі пакуль амаль на марна — не павінны нас задзержваць. Проста мусім перамагчы самых сябе, сваю стомленасьць, магчымае разачараваньне ад няўдачаў. Мы павінны дабіцца сваей школы ўва што-б то ні стала! Ня маем права адмаўляцца ад тых здабычаў, якія ўжо заваёваны і ўведзены ў законы, мы павінны гэтым законам надаць жыцьцё, мусім дабіцца, каб яны ня былі простым кавалачкам паперы. Цяжасьць барацьбы ўжо на аснове напісаных законаў ніколі не павінна прыводзіць нас да думкі аб марнасьці высілкаў на гэтым шляху наагул, наадварот — такая думка надзвычайна шкадлівая, яна можа прывясьці да поўнага зьняверыньня ў свае сілы".

# Палітычная хроніка

## З ПОЛЬШЧЫ

### Бурныя паседжаньні Сойму.

Наагул, паседжаньні Сойму і соймавых камісіяў носяць вельмі бырны характар, асабліва ў бюджэтнай камісіі пры разглядзе бюджэтаў Міністэрства Унутраных Справаў. З рэзкаю крытыкаю дзеяльнасьці Міністэрства Унутраных Справаў выступалі паслы Тромчынскі (KN), Чапінскі (PPS), Вазьніцкі (Wyz.), Грынбаум (жыд), Домбскі (Str. chł.), Целевіч (укр.).

У часе прамовы апошняга дайшло да канфлікту між паслом Паляковічам (ББ) і Хруцкім (Старшыня Украінскага Клюбу), закончыўшыся тым, што Паляковіч два разы зьняважыў чынна пасла Хруцкага ў кулюарах Сойму. Хруцкі зьвярнуўся да маршалкаўскага суда.

У выніку галасаваньня над бюджэтам быў скрэсьлены зусім гэтак званы дыспазыцыйны фонд у суме 6 міл. зл. і зьменшаны бюджэт Міністэрства на 13 міл. зл. з выдаткаў на паліцыю. За гэтыя скрэсьленьні галасавалі усе партыі разам з эндэкамі, якія абразіліся на міністра Складкоўскага за тое, што ён параўняў іх з украінскім „ундо“ і пасл. Грыбаўмам. Проці скрэсьленьня галасавалі ББ і ChD.

### Надзвычайная прапазыка правых клюбаў у справе ўтрыманьня міру.

Соймавыя Клюбы N. D., Пяст, Ch. D. N. P. R. унясьлі ў Сойме надзвычайную прапазыку ў справе гварантыі бясьпекі і ўтрыманьня міру наступнага зьместу:

„Прыймаючы пад увагу:

1—што на паседжаньні рэйхстагу 15 і 16 лістапада пры абгаварэньні пытаньня аб будове крэйсару прадстаўнікамі ўлады і партыяў выразна было сказана, што гэта ўзбраеньне скіравана проці Усходу, а перад усім проці Польшчы;

2—што на паседжаньні рэйхстагу 19 і 20 лістапада пры абгаворываньні прамовы Міністра Заграні́чных Спраў зноў было паднята з боку партыяў пытаньне аб зьмене польска-нямецкай граніцы;

3—што адначасова, на падставе паразуменьня ад 15 верасьня ў Жэнэве, распачаліся перагаворы аб ранейшым спыненьні акупацыі Прырэйнскае вобласьці —

---

Б. Левін.

## Саша.

(З радавай гумарыстыкі).

Яго ўсе называлі ветліва — Саша, Сашанька, Сашутка. Да яго сівай ўсьпененай барады і срогіх маршчакоў, сьцягнуўшых загарэлы лоб, гэтае песьлівае імя ня ішло. Я нават раз запытаўся ў яго:

— Як вас па іменьні і па бацьку? А то проста называць вас Саша нейк нязручна.

— Нічога, — адказаў ён сялянскаю гутаркаю. — Мы, мужыкі, народ не абразьлівы. Мы не якія-небудзь паны, каторыя ў Чорным моры купаюцца. Хочаш, называй Саша, хочаш Сашкаю. Мы сваё дзела так-жа разумеем і ведаем, куды сацыялістычную лінію гнуць..

Кожнага першага мая і ў дзень угодкаў кастрычнікавай рэвалюцыі Саша паказваўся на трыбуне і адтуль грамавым голасам вітаў дэманстрантаў:

— Ад іменьня штатмільённага сялянства нізкі паклон! (Саша згібаўся да пояса) Ура! Саша выпростваўся і махаў сіняю шапкаю.

Другі лёзунг, каторы выкрыківаў Саша, ня менш ярасна, быў:

—„Сьмерць ворагам капіталу!“

У канцы дня ахрыпшы і ўспацеўшы Саша самым апошнім злазіў з трыбуны.

* * *

У месьце яго любілі, і ніхто не заўважаў, што вось ужо пяць гадоў, як Саша жыве, не выяжджаючы ў вёску, якою ён так пышыўся і хваліўся. Жыў ён у нумары бышага гатэлю „Бэльгія“, а цяпер інтэрнат Губіспалкома. У тэатр, кіно і лазьню хадзіў ён бясплатна. Ён часта проста ўвайходзіў у габінэт якогл-колечы адказнага работніка і, крэхчучы і вохаючы, пытаўся:

— Зайшоў паглядзець, як у вас тут праца йдзе? Ну вось і добра, а то Антанта ня дрэмле і куе навокал нас павуціну.

У мінулым годзе, перад угодкамі кастрычнікавай рэвалюцыі, прыбылі на сьвяткаваньне па двох дэлегатаў ад кожнай воласьці. Яны йшлі асобнаю калюмнаю. І калі дэлегаты праходзілі каля трыбуны, адкуль Саша кідаў лёзунгі, у другім радзе адзін з дэлегатаў затрымаўся, як укопаны.

—Не затрымлівай паходу, разявяка! — крыкнулі на яго з задніх радоў — і вытаўхнулі дэлегата з калюмны. Астаўшыся каля трыбуны, ён далей разглядаў Сашу. А калі нехта ў яго запытаў: „Чаго зрэнкі тарошчыш?“ — ён адказаў, не адрываючы вачэй ад плякатнай фігуры старога:

—Далібог, ён. Далібог...

І дэлегат па сходках узыйшоў на трыбуну, ціханька таўхануў Сашу ў сьпіну і аклікнуў яго:

Сойм зьвяртаецца да Ураду з прапазыкаю прыняць усе крокі з мэтаю запэўненьня, што ня будзе нарушаны 429 пар. Вэрсальскага трактату, на падставе якога з спыненьнем акупацыі павінны быць зьвязаны дастатачныя гарантыі проці агрэсыўнай дзеяльнасьці Нямеччыны".

Прапазыка гэта выклікала ў Нямеччыне агульнае абурэньне. Нацыяналістычная газ. „Нямецкая Газ." піша з абурэньнем, што справа Прырэйна Польшчы не датычыць і што прапазыку ў Сойме правых польскіх партыяў трэба разглядаць, як умешываньне ўва ўнутраныя справы Нямеччыны.

„Нямецкая Агульная Газэта" піша, што прапазыка польскіх правых клюбаў зьяўляецца палітычным манэўрам, маючым на мэце здабыцьцё Польшчаю Усходняга Лёкарну, якое Немцы заўсёды адхілялі і якое ў будучыне гэтак сама будзе адхіляцца.

„Біржавы Кур'ер" піша, што дзяржавы, якія трымаюць войска ў акупаванай паласе, павінны разглядаць справу небясьпекі толькі з пункту гледжаньня ўласных інтарэсаў, а не небясьпекі міру на Ўсходзе.

## Няўдалае выступленьне пасла Слаўкі ў Пазнані.

Віленская эндэцкая газ. „Dz Wil." паведамляе, што на мінуўшую суботу быў вызначаны ў Пазнані адчыт старшыні пасольскага Клюбу Б. Б. пасла палкоўніка Слаўкі на тэму „10-я ўгодкі Польскае Дзяржавы". На адчыт прыйшлі, апрача студэнтаў, яшчэ стральцы. Калі палк. Славак сказаў, што Раман Дмоўскі ня мае ніякіх заслугаў у здабыцьці незалежнасьці і быў на ўслугах Расеі, на салі падняўся шум, перайшоўшы потым у бойку між студэнтамі і стральцамі, канец якой палажыла паліцыя. Далейшы працяг адчыту быў спынены.

## Польская нота Чэха-Славакіі.

У зьвязку з замахам на польскага консула Любачэўскага ў Празе, Польскі Урад даручыў праз пасла Грыбоўскага Чэскаму Ураду ноту. У ноце гаворыцца, што на тэрэне Чэхаславакіі ёсьць цэлы рад украінскіх арганізацыяў, працуючых на шкоду Польшчы. Далей, нота вымагае катэгарычнай і пасьпешнай ліквідацыі ўкраінскіх ваенных арганізацыяў і закрыцьця тайна выходзячых газэтаў.

## Адбудова зьнішчаных вайною будынкаў ў Польшчы.

У выніку сьвятовай вайны, а затым савецка-польскае было зьніштожана пажарамі і гарматнымі снарадамі на тэрыторыі Польшчы каля 2 мільёнаў (дакладна 1,837,305

---

—Аляксандра Яновіч, нашая вам пашана!

Саша ў гэты час махаў шапкаю. Ён, не абярнуўшыся, адмахнуўся.

—Чаго табе? Не перашкаджай працаваць!

На дэлегата і прысутныя тут-жа на трыбуне глянулі ваража. Але дэлегат прадаўжаў:

—Аляксандра Янавіч, абярніся!

Саша абярнуўся. Дэлегат, радасна ўсьміхаўшыся, прывітаў яго.

—Што-ж ты, як вялікім чалавекам зрабіўся, дык да нас і носа не паказваеш!

І вытлумачыў прысутным:

— Ён добры пан, няма чаго казаць, нашага брата-мужыка ня крыўдзіў.

Саша спачатку пачырванеў, а затым, пабляднеўшы, крыкнуў:

— Чаго абслаўляеш мяне ганьбаю?

Некаторыя з прысутных так-жа непахвальна сказалі дэлегату:

— Што вы прыстаеце, у самым дзеле?

— Ды я-ж дэлегат! На сьвяткаваньне прыехаў! Вось ішоў з таварышамі, бачу— наш абшарнік. Вось і абрадаваўся. Ахвота пагутарыць. Ужо каторы год, як ня бачыліся. Ма, быць, гадкоў восем будзе, Аляксандра Янавіч?

* * *

Калі Сашу дапытвалі: ці праўда, што ён быўшы абшарнік Аляксандр Янавіч Цемлякоў, ён ад гэтага не адмаўляўся і ў сваё апраўданьне гаварыў:

— Вось ўжо пяць гадоў, не шкадуючы горла і лёгкіх, пры ўсякай пагодзе выкрыківаў лёзунгі:

— Ад мільённага сялянства нізкі паклон!" — раз. А другі — „Сьмерць ворагам капіталу!"

— Як, як? Паўтарыце!...

— „Сьмерць ворагам капіталу". — паўтарыў Саша, не маргнуўшы вокам.

— Гэта-ж контр-рэвалюцыйны лёзунг!— Саша абурыўся:

— Я не гаварыў, што я абшарнік, проста не хацеў успамінаць праклятае мінулае, і за гэта судзеце 60-годняга барацьбіта, а за лёзунг я пастаю...

* * *

Ужо больш Саша з трыбуны дэманстрантаў ня вітаў. Але, спаткаўшы каго-колечы на вуліцы, ён усхвалёвана гаворыць.

— Не разумею, чаму гэты лёзунг контррэвалюцыйны? Сьмерць тутака ёсьць? Ёсьць. Вораг ёсьць? Ёсьць. Капітал ёсьць? Ёсьць.

І абразьліва дабаўляе:

— Эх, каб не мая праклятая мінуўшчына, яшчэ-б ня раз сталёвыя калёмны ўбачылі мяне ў першых радох

З расейскага пераклажыў: **Улад—Ініцкі.**

быдынкаў). 5 мільёнаў чалавек апынулася бяз даху над галавою. З гэтае лічбы 140,000 зьнішчаных будынкаў прыходзілася на гарады, а рэшта на вёскі.

Польскія дзяржаўныя ўлады адразу па скончаньні вайны прыступілі з усёй энэргіяй да адбудовы краю. Вынікі гэтых высілкаў наступныя:

Да канца 1920 было адбудавана 403,685 будынкаў, да канца 1921 г. 674,037 буд., да канца 1922 году — 881,600 буд., да канца 1923 г. — 1,099.046 буд., да канца 1924 г. — 1,212.516 буд., да канца 1925 г. — 1,318,645 буд., да канца 1926 г.—1,426,841 і да канца 1927 г.—1,500,000 будынкаў, ці каля 82,8 проц. агульнае лічбы зьнішчаных будынкаў.

К пачатку бягучага году засталося неадбудаваных каля 300,000 будынкаў. Калі адбудова і далей пойдзе ў гэткім тэмпе, дык да канца 1930 г. не застанецца ніякіх сьлядоў вайны.

На дзень 1 студня гэтага году заставалася для адбудовы (лічбы ў крэсках азначаюць агульны лік зьнішчаных будынкаў): сьвятыняў—429 (1,969), школаў 1,103 (6,586), іншых будынкаў грамадзкага карыстаньня—547 (1,793), мураваных будынкаў — 8,240 (27,000), дзеравяных—73,303 (499,000), гаспадарскіх—223,461 (1,248,100).

Наагул, адбудова вёскі ідзе хутчэй, чым места. Пры гэтым трэба адцяміць палепшаньня якасьці новых будынкаў. На крэсах ужо амаль зусім зьніклі курныя хаты. Новыя вясковыя хаты маюць па 2—3 пакоі. Дзякуючы гэтаму і вонкавы выгляд вёскі значна пахарашэў.

Апрача гэтага, ў местах выбудавана да гэтага часу каля 83,000 новых дамоў з агульнаю лічбаю 380,000 пакояў.

Найбольшая патрэба адбудовы яшчэ адчуваецца на Ўсх. Крэсах. Міністэрства грамадзкіх работаў выбудавала ў 1924—26 г. каля 2,000 пакояў. Дзяржаўнае будаўніцтва шпарка пашыраецца далей. У стане будовы знаходзіцца каля 70 вялікіх будынкаў.

## З ЗАГРАНІЦЫ.

### Падрыхтоўка да вайны Немцаў.

Англійская газ. „Times" зьмясьціла цікавы ліст да рэдакцыі англійскага гэн. Моргана па пытаньню аб нямецкіх узбраеньнях. Ліст гэты, выкліканы прамоваю Л.-Джорджа ў ніжняй палаце, у якой быўшы прэм'ер заявіў, што быццам Немцы зусім разброены.

Гэн. Морган быў ў працягу 4-х гадоў прадстаўнікам Англіі ў камісіі хаўрусьнікаў па кантраляваньню нямецкіх узбраеньняў паводле Вэрсальскага трактату, а затым дарадчыкам старшыні гэтае камісіі гэн. Нолле. Дзеля гэтага кампэтэнцыя гэн. Моргана не падлягае ніякаму сумліву.

Гэн. Морган піша, што Немцы апрача 100,000 легальнае арміі маюць яшчэ 840,000 чал. добра падрыхтаваных для вайны ў 1922-26 г. Да гэтае лічбы трэба яшчэ далучыць ваенна—абучаных у 1927-28 г. Людзі гэтыя складаюць кадру для ўсяго ўзброенага народу.

Што датычыць выдаткаў на войска, дык толькі частка іх фігуруе ў бюджэце ваеннага міністэрства, а большасьць у бюджэтах розных іншых міністэрстваў. Выдаткі на войска ў Нямеччыне ў розных аддзелах у 10 разоў большыя, чым у Англіі.

Толькі адна Нямеччына мае арганізацыі быўшых ваенных, падрыхтаваных для мабілізацыі.

Гэн. Морган аблічае, што Немцы схавалі каля 10,000 гарматаў, што складае лічбу ў 30 разоў большую, чым дазволена мірным трактатам.

Затым, Немцы дасканальна падрыхтаваны да гэтак званае гаспадарча-прамысловае мабілізацыі, — прадукцыі атрутных газаў, пораху і выбуховых матэр'ялаў. Нямецкая цягніковая сетка гэтак сама добра падрыхтована для мабілізацыі. Калі Польшча патрабуе на мобілізацыю тыдні, дык Немцы толькі дні.

Праўда, гэта яшчэ ня значыць, што Немцы падгатаўляюць новую вайну. Але яны робяць усё, каб быць гатовымі да вайны. Што-ж датычыць лёкарнскіх пактаў, дык яны маюць такую-ж вартасьць, як і лёнданскі пакт, які гварантаваў нэйтралітэт Бэльгіі.

### Антысавецкі тэрор у С. С. Р. Р.

Уся Радавая Расея ахоплена хваляю сялянскіх тэрорыстычных актаў проці савецкіх урадоўцаў, селькораў і камуністых. Гэтага ня скрываюць на'т савецкія газэты. „Вячэрняя Масква" паведамляе, што у Разані арыштавана 35 сяброў тэрорыстычнае арганізацыі, якая зрабіла 38 аружных нападаў на савецкія ўрады, спаліла 28 урадавых гмахаў і замардавала 24 камуністычных урадоўцаў. Арганізацыя гэта стэрарызавала мяйсцовых камуністых, што яны баяліся працаваць адкрыта і перайшлі на'т да падпольнае працы.

### Антысэмітызм у С. С. Р. Р.

Савецкая прэса б'е трывогу з прычыны ўзрастаючага і ахопліваючага ўсю Расею антысэміцкага руху. Ня толькі ў вёсках, на'т на фабрыках распачаліся прасьледаваньні жыдоў. Цікава тое, што антысэмітызмам ахоплены на'т камсамольцы. На фабрыках б'юць і мардуюць жыдоў. На Украіне даходзіць да частых жыдоўскіх пагромаў, якія прыходзіцца тлуміць пры помачы войска і чразвычайкі. Савецкая ўлада паважна ўстрывожана гэтымі праявамі і прыймае ўсялякія меры для спыненьня антыжыдоўскага руху. Як відаць, падыходзіць канец жыдоўскаму панаваньню ў С. С. Р. Р.

## Бунт вязьняў у Менску.

22 лістапада ў Менскім вастрозе выбухла галадоўка палітычных вязьняў і нядаўна арыштаваных сялян-партызанаў. Выклікала галадоўку зьбіцьцё аднаго палітычнага вязьня, які на другі дзень памёр. Варта вастрогу хацела задушыць бунт рэпрэсыямі, але вязьні разброілі варту і ўцяклі з вастрогу. 14 чалавек былі злоўлены, а 4 чалавекі, сярод іх б. палкоўнік Аляксей Уладзімірскі, асуджаны на сьмерць, уцяклі да Польшчы на вучастку Вял. Хутары.

## Паўстаньне на Беларусі.

У ночы з 26 на 27 лістапада ў Самахвалавіцкім раёне Усх. Беларусі выбухла сялянскае паўстаньне. ДаСамахвалавіч 25 лістапада прыбыў карны аддзел у сіле 350 чал., які расьсяліўся па вёсках. У ночы 26 лістапада па змове ўва ўсіх гмінах сяляне накінуліся на жаўнераў і разброілі іх, а 4 ахвіцэраў замардавалі. На наступны дзень быў створаны спэцыяльны паўстанчаскі камітэт і прыступлена да капаньня акопаў. Большасьць жаўнераў гэтак сама далучылася да іх.

## Сьмяротная казнь за замахі.

На ўсёй тэрыторыі рад. Расеі павялічваюцца выпадкі замахаў на савецкіх урадоўцаў і актыўных камуністых. Папярэднія меры наказаньня ня маюць пасьпеху. У зьвязку з гэтым галоўны савецкі пракурор Крыленка ўносіць да Цэнтр. Вык. Кам. праект зьмены ўгалоўнага закону, паводле якога ўдзел у замахах на жыцьцё камуністых будзе карацца сьмяротнаю казьняй. Апрача таго, ўводзіцца калектыўная адказнасьць (кругавая парука) воласьцяй за ўсялякі морд, учынены на іх тэрыторыі. Між іншым, Крыленка заявіў, што ў вастрогах рад. Расеі сядзіц 180,000 палітычных вязьняў.

## Новы нямецкі пасол у Маскве.

Прэзыдэнт Гіндэнбург назначыў дырэктара міністэрстваДырксэна нямецкім паслом у Маскве. Дырксэн раней быў сэкрэтаром нямецкага пасольства ў Варшаве.

## Страшныя буры ў Эўропе.

У канцы мінуўшага і пачатку бягучага тыдня над Балтыцкім і Паўночным морам, Англіяй, Паўночнай Францыяй, Нямеччынай, Бэльгіяй, Галяндыяй і Даніяй шалелі страшныя буры, прычыніўшыя вялікія страты матэр'яльныя і ў людзях.

У некаторых местах бура вырывала дрэвы з карэньнямі, зрывала стрэхі з дамоў, бурыла фабрычныя каміны, залівала вёскі і г. д. Цэлыя правінцыі залітыя вадою. У многіх местах шалеючае мора прарвала прыбярэжныя дамбы і заліла сушу. У Атлянтыцкім акіяне затанула каля 21 параходаў. Гэтак сама затанула некалькі параходаў у Балтыцкім і Нямецкім моры. Ёсьць шмат ахвяраў у людзях. У паўднёвай Нямеччыне шалела сьнежная бура пры марозе ў 3°.

# Тутэйшая хроніка.

— **Часовы Стараста ў Маладэчне.** Ад 27 лістапада ваяводзкі радца п. Вітальд Жораўскі заняў часова становішча старасты ў Маладэчне.

**Новы інспэктар „Związków Komunalnych".** Ад 2 сьнежня былы заступнік Гарадзкога Старасты ў Вільні п. Богдан Александровіч займе становішча інспэктара Związków Komunalnych у Віленскім ваяводзтве. Становішча заступніка Старасты зойме старэйшы рэфэрэнт віленскага староства п. А. Дваржэцкі — Богдановіч.

— **Зьезд Старастаў.** 6 і 8 сьнежня адбудзецца ў Віленскім ваяводзтве зьезд старастаў. На дзенным парадку стаяць пытаньні гаспадарчыя, ральнічыя і гаспадарчыя.

— **Агульны сход Т-ва Беларускае Школы** адбудзецца 9-10 сьнежня у Вільні ўва ўласным памешканьні пры вул. Сьв. Ганны, № 2.

— **Зьезд беларускае Хадэцыі.** 25 лістапада у Вільні ў салі Інстытуту Гаспадаркі і Культуры адбыўся зьезд Беларускай Хрысьціянскае Дэмакрацыі, скліканы Цэнтральным Камітэтам. Зьехалася каля 50 дэлегатаў. Пасьля рэфэратаў кс. В. Гадлеўскага, пасла А. Стэповіча, Р. Карузы і дакладаў з мейсц, адбыліся перавыбары Цэнтр. Камітэту, у склад якога ўвайшлі: п. Стэповіч, пас. Каруза, кс. Станкевіч, гр. Гагалінскі, гр. Я. Шутовіч і інш. Старшынёю прэзыдыуму выбраны гр. Гагалінскі.

Па заканчэньні зьезду амаль што ўсе дэлегаты асталіся на спэктакль-вечарыну, наладжаную Інст. Гаспадаркі і Культуры на карысьць Бел. Студэнскага Саюзу.

— **Адмова.** Улады Ваяводзкія адмовілі у просьбе 42 працаўнікоў, затрудненых пры канцэсіі Т. Вернікоўскага на ігру сьвета-каляровую.

Працаўнікі дзеля поўнага разрахунку, згодна з законам прасілі аб працягу гэнае канцэсіі, якая была „cofnięta" без усялякіх прычынаў і цяперака, дзякуючы адмове як раз на зіму і перад сьвятамі, асталіся звольненымі бяз ніякай дапамогі.

— **Навал сэквэстратараў.** Даведаўшыся з газэтаў, што канцэсія Т. Вернікоўскага на ігру сьвета-каляровую праз Ваяводзтва „została cofnięta" і эксплёатацыя яе з 1-га сьнежня спыняецца, амаль што ўвесь лістапад дахадовыя касы сэквэстраваліся Ізбай Скарбовай і Касай Хворых. Трэ-

ба тут аддеміць, што паміма бягучых падаткаў, у неспадзеўку прыйшлося аплачваць яшчэ новы доўг Ізбе скарбовай А. Паўлюкевіча за 1927 год у суме каля 4000 злотых, апрача заплачаных Касе Хворых каля 5000 злотых. Гэты „спадэк“ выбіў з нармальнага пляну увесь ліквідацыйны пэрыяд і пагоршыў стан разрахункаў з працаўнікамі.

— **Купля збожжа самаўрадамі.** У зьвязку з цяжкаю гаспадарчаю сытуацыяй паасобных местаў і мястэчак Віленскага ваяводзтва, адміністрацыйныя ўлады зрабілі адпаведныя крокі ў адносных цэнтральных уладаў з мэтаю забясьпечыць насельніцтва перад выкарыстаньнем збожжавымі спэкулянтамі, якія ў выпадку недахопу жыта і мукі па мяйсцовых рынках маглі-бы падняць цэны. Міністэрства Ўнутраных Справаў разглядзела запрапанованыя пастуляты і захавала значную колькасьць збожжа, якое будзе кінута на рынак у адпаведны момант.

Незалежна ад гэтага Віленскі Магістрат атрымаў значны крэдыт і ужо прыступіў да куплі збожжа на тэрэне паўдзённых ваяводзтваў. Збожжа гэтае перавозіцца да Вільні і ссыпаецца ў магазыны.

**Працэс Кам. партыі Зах. Беларусі у Наваградку.** 27 лістапада распачаўся працэс Камуністычнае арганізацыі Зах. Беларусі, якая працавала на тэрэне Баранавіцкага і Наваградзкага паветаў. На лаве абвінавачаных апынуліся: пасол Стагановіч з сьпіску № 39, выданы Соймам суду і 19 іншых. Склад суда: старшыня — судзьдзя Мурза — Мурзіч і судзьдзі: Паўлюць і Карповіч. Абвінавачвае пракурор Хадэцкі. Бароняць: адв. Гонігвіль, Сьмяроўскі, Сьвірыд, Гумэнэр, Аляксюк (беларус) і Будахоўскі. Усе абвінавачаныя да суда сядзелі у вастрозе. У гэтай справе выклікана 115 сьведкаў.

— **Літоўска-украінскія адносіны.** Літоўскі Часовы Камітэт у Вільні выразіў пісьменае спачуцьцё Украінцам з прычыны апошніх выпадкаў у Львове.

— **Інтылегэнтныя сілы прыбываюць.** 24-га лістапада г. г. ў Віленскім Унівэрсытэце адбылася прамоцыя на доктара грамадз. Язэпа Жука.

— **Адчыты.** Наладжаныя Беларускім Студэнскім Саюзам лекцыі з беларусазнаўства карыстаюцца пасьпехам і зьбіраюць шмат слухачоў. Ужо адбыліся лекцыі гр. Антона Луцкевіча, паслоў Янкі Станкевіча і гр. Савіцкага.

— **Спэктаклі.** 24 і 25 лістапада г. г. адбыліся ў салі Інст. Гаспадаркі і Культуры спэктаклі-вечарыны, наладжаныя на карысьць Бел. Студ. Саюзу. Адыгралася п'еса „Залёты“. Публікі, як заўсёды, было шмат.

— **Канфіскэта.** 29 лістапада па загаду гарадзкога старасты была канфіскавана ўлётка з прамоваю пасла Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу Гаўрыліка. Выдавец улёткі пацягнуты да судовае адказнасьці.

— **Ад Рэдакцыі.** Гэтым паведамляем паважаных нашых падпішчыкаў і чытачоў, што ўсе чуткі аб тым, быццам нашая газэта і „Беларускі Радны“ у хуткім часе спыняцца і перастануць выходзіць — не адпавядаюць праўдзе, бо газэты гэтыя як выходзілі, гэтак і далей будуць выходзіць і толькі просім ўзнавіць падпіску, бо бясплатна будуць высылацца толькі аддзелам „Прасьветы“ на Віленшчыне і сябром Самаўрадавага Камітэту.

— **Беларускі адрыўны календар.** Выйшаў з друку і прадаецца Беларускі адрыўны календар на 1929 г., выданы Беларускім Выдавецкім Т-вам. Календар зьмяшчае ў сабе аддзелы: літэратурны з партрэтамі беларускіх пісьменьнікаў, гумарыстычны, грамадзкі, школьны, па гісторыі, мэдыцыне і гігіэне, па сельскай гаспадарцы, каапэрацыі, пчалярству, рыбалоўству, мастацкі і шэраг практычных парадаў.

Цана календара 1 зл. 40 гр., перасылка заказным друкам 70 гр., а простым — 30 гр. Галоўны склад: Беларуская Кнігарня Бел. Выдавецкага Т-ва: Вільня, Вострабрамская № 1. Можна набыць ва ўсіх беларускіх кнігарнях.

# Навука і тэхніка.

## Ракетавы самаход.

У Бэрліне адбылася ў суботу 24 лістапада спроба ракетавага аўтанабілю, зробленага інжынэрам Волькарта, быўшым супрацоўнікам фірмы „Ополь“, якая будуе ракетавы самалёт для палёту на месяц. Самаход прайшоў простран у 400 кілямэтраў па 60 кілям. у гадзіну бяз ніякіх выпадкаў. Гэткім чынам прыстасаваньне ракетавых сільнікаў да самаходаў і самалётаў можна лічыць фактам дакапаным.

# Усячына.

## Мільённая спадчына.

Нядаўна ў Амэрыцы памёр мільянэр Морыц Вэйнбэргэр, які пакінуў 30 мільёнаў спадчыны. Дзеля таго, што ён не пакінуў завяшчаньня, амэрыканскі консул у Браціславе (Чэхія) знайшоў законнага насьледніка, нейкага Салямона Вэйнбэргэра, служачага касьцельным сторажам у в. Нукацэва, які гэткім чынам адразу зрабіўся мільянэрам, дзякуючы свайму „дзядзюшку з Амэрыкі“.

## Рэха выбуху Этны.

Страты, прычыненыя апошнім выбухам вулькану Этны у Італіі, аблічаюцца ў 200 міл. ліраў. Зьнішчана 700 дамоў, спустошана 1,200 гэктараў зямлі, каля 5,000 чалавек засталася без стра-хі над галавою.

Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.